Oplatę pocztową
uiszczono ryczałtem

Цана асобнага нумару 20 грош.

# Жыцьцё Вёскі

АДНАДНЁЎКА

Вільня, Серада 15-га ліпня 1925 г.

## „Простая“ справа.

Бадай ніколі йшчэ не выяўляўся ў Сойме з такой яснасьцяй падзел Польшчы на два варожыя сабе ўзаемна абозы: на абоз працоўных і абоз эксплёататараў,—як цяпер, пры праходжаньні праз Сойм закону аб „парцэляцыі і асадніцтве“.

Беларуская вёска ведае ўжо, што ўрад братоў Грабскіх маніцца гэтым законам падмяніць закон аб зямельнай рэформе, пяць гадоў назад зацьверджаны польскім Законадаўчым Соймам і дагэтуль не праведзены ў жыцьцё. І вось у гэтай падмене, як аказваецца з галасаваньняў у Сойме, прынялі чыннае ўчасьце ня толькі буржуазныя польскія партыі, ня толькі жыдоўская буржуазія, але *і тыя польскія соймавыя групы, якія называюць сябе „сацыялістамі“, абаронцамі працоўнага народу і г. д.*

Асаблівую ўвагу трэ зьвярнуць на партыю польскіх „сацыялістаў“—*П. П. С. Партыя гэтая цалком падтрымлівае ліквідацыю закону аб надзяленьні сялянства зямлёй.* Дый мала гэтага: за абяцанку даць зямлю дворным парабкам, сярод якіх партыя мае некаторыя ўлывы, польскія „сацыялісты“ падтрымліваюць сталыпінскую ідэю аб стварэньні на целе працоўнага сялянства—перад усім беларускага і ўкраінскага—*балючае скулы ў пастаці польскіх кулакоў-багатыроў*, а адначасна ўводзяць *раскол між працоўнымі вёскі і мястовымі работнікамі*, ад імя каторых партыя П. П. С. выступае. І трэба думаць, што польскія „сацыялісты“ робяць гэта зусім сьвядома: у імкненьні да аб'яднаньня працоўных вёскі і места яны бачаць такі страшны для польскае буржуазіі „бальшавізм“ і, як ворагі апошняга, стараюцца перашкодзіць аб'яднаньню ўсіх працоўных....

Такую палітыку дзяленьня працоўных вядзе якраз тая партыя, якая на сваіх сьцягах і ў загалоўку свайго галоўнага органу напісала крывадушна кліч: „Niech żyje rząd robotniczo-włościański!“

Ня менш крывадушную палітыку вядзе партыя „Wyzwolenie“, каторая так многа шуму робіць у часе абгаварываньня і галасаваньня закону аб „парцэляцыі і асадніцтве“. *Цішком,* скрываючыся ад вачэй сваіх выбаршчыкаў—сялян, партыя гэтая *ўжо даўно згаварылася з польскай буржуазіяй* аб тым, што гэным законам трэба *„ратаваць польскасьць на Крэсах“*. І вось, як нас паведамляюць з соймавых кругоў, „вызваленцы“ надумаліся разыграць гэткую камэдыю: перш крычаць проці закону і падаць нялічаныя папраўкі да яго, а пасьля, калі б пры апошнім галасаваньні было ясна, што бяз іх галасоў закон праваліўся-бы,— *падаць свае галасы за яго*, бо ён ужо „папраўлены“....

Чаму-ж гэта так? Скуль гэтая крывадушнасьць?

Справа даволі простая. Павадыры польскіх „сацыялістаў“ і „вызваленцаў“—гэта бадай выключна прадстаўнікі польскае шляхоцкае інтэлігенцыі, сыны паноў-абшарнікаў, якія за грошы, сабраныя іх бацькамі з крывавае мужыцкае працы, атрымалі вышэйшую асьвету і цяпер карыстаюцца сваім палажэньнем і адсутнасьцяй запраўды працоўнай інтэлігенцыі ў Польшчы, каб баламуціць і ашуківаць свой-жа працоўны народ. Польская інтэлігенцыя блізу ўся зьвязана з пануючай польскай буржуазіяй і ў барацьбе польскіх працоўных масаў з эксплёататарамі іх ідзе рука ў руку з апошнімі...

Вось гэтым і тлумачыцца тая дзіўная на першы пагляд пазіцыя, якую занялі польскія „сацыялістычныя“ і „людовыя“ партыі ў барацьбе сялянства ў Польшчы за зямлю. А калі яшчэ раз адзначым, што *новы закон будзе найбольш крыўдным для беларускага і ўкраінскага малазямельнага і беззямельнага сялянства*, калі прыпомнім сабе і „патрыятызм“ гэтых партыяў—у духу „істинно-польском“, дык уся справа акажацца зусім яснай і простай....

## Без ініцыятывы.

*(Пэрспэктывы проціpадавай коаліцыі).*

Тая „скрытая“, але відочная ўсяму сьвету вайна, якая йдзе ўжо—на тэрыторыі Кітаю — між Англіяй і Радамі, гатова, здаецца, выбухнуць у кожны мамэнт у зусім адкрытай і афіцыяльнай форме... Бо—ці-ж-бы ў добрыя старыя часы можна было падумаць, каб Англія дазволіла каму-небудзь „трактаваць“ яе так, як цяпер яе навет не „трактуюць“, але папросту б'юць па кішані ў Кітаі, наражаючы на сьмех, на крах яе палітычны „прэсьціж“, а перад усім яе гандаль (для англійцаў палітыка і гандаль—адно)...

Відаць, часы зьмяніліся. Але-ж зьмяніліся, здавалася-б, на карысьць Англіі, якая з усіх пераможцаў найкарысьней выйшла з апошняй вайны... А што-ж казаць ужо аб зусім спустошанай—у выніку вонкавай і хатняй вайны і інтэрвэнцыяў Расеі?—Аднак-жа, вось, пакуль Англію ў Кітаі, — дый наагул у Азіі—б'юць, яна ніяк ня мае яшчэ духу... пачуць сябе запраўды абражанай, ня гледзячы навет на тое, што гэтая „неабразьлівасьць“ каштуе ёй — 10 міліёнаў даляраў у дзень—толькі ў адным Кітаі!..

Чаму гэта так?

Перад усім — таму, што Англія любіць ваяваць, маючы поўную пэўнасьць перамогі; другое, што Англія любіць ваяваць пераважна чужымі рукамі... Ёсьць яшчэ і трэцяе: тая непадзельная дыктатура, якой карысталіся ў Англіі буржуазныя імпэрыялістычныя партыі, зьмяняўшыя адна адну ў парляманьце і ў урадзе, але рабіўшыя па сутнасьці адно дзела,—цяпер скончылася: новая работніцкая партыя, як выразна заяўляюць яе правадыры, **ня хоча вайны.** А хтось вельмі трафна сказаў, што цяпер, хаця яшчэ работніцкія партыі і ня маюць улады ў сваіх руках, але амаль не на ўсім сьвеце ўжо здабылі сабе такую сілу, што **проці іх волі** ніякі ўрад не магчыме распачаць ніякага больш-менш важнага кроку, а перад усім — вясьці вайну.

Дык вось перад усім вайна з ССРР — зусім няпэўная справа для Англіі, асабліва калі яна, Англія, будзе ваяваць адна. — А ў Кітаю б'юць па нейкай вельмі спрытнай камандзе—выключна англійцаў (грохі там і японцаў, але—так, мімаходам). Англія і занялася цяпер тым, каб зрабіць „коаліцыю“, ці такі ваенны саюз дзяржаў, дзе ўсе іншыя дзяржавы біліся-бы на сьмерць, а Англія пераважна плаціла-б грошы (якія пасьля вайны, як доўг, спагнала-бы назад)... І вось з Парыжу пішуць 10/VII, быццам англійскі ўрад ужо пастанавіў ня толькі парваць дыпляматычныя зносіны з ССРР, але і стварыць агульны фронт проці Радаў.—„Лёнданскі габінэт заняты цяпер намаўляньнем да ўчасьця ў коаліцыі Францыі, Амэрыкі, Японіі і—Нямеччыны. Учасьце Францыі і Амэрыкі быццам-то—забяспечана; Японія хістаецца. Далучэньне Нямеччыны, як думаюць Балдвін і Чэмбэрлен, можа быць куплена толькі за вельмі дарагую цану... Нямеччына быццам падняла справу кампэнсацыяў (заплаты, ці адшкадаваньняў) коштам Польшчы, на падставе якіх яна можа пачаць перагаворы“...

Так кажа тэлеграма з Парыжу...

Калі мы прыпомнім даўнейшыя разрухі і эўрапэйскія „карацельныя экспэдыцыі“ ў Кітаі, дык заўсёды выбіраліся ўсе, а білі і ўсьміралі кітайцаў толькі немцы, расейскія казакі ды японцы... А цяпер як раз гэтых даўнейшых „жандароў сусьвету“ няма. Калі мы прыпомнім войны Эўропы з Расеяй за апошнія часы, дык ізноў без дапамогі ці „нэйтралітэту“ Нямеччыны ўся Эўропа проці Расеі была бяссільна. Дык вось ясна, што ніякая інтэрвэнцыя ці коаліцыя проці Кітаю ці ССРР—папросту **нямысьліма без Нямеччыны.** Гэта ўжо разумеюць усе. Інакш і наадварот думае толькі адна Польшча...

Але ж—як-жа можа Польшча думаць інакш, чым яна думае, калі варункам магчымасьці перагавораў аб учасьці ў коаліцыі Нямеччыны апошняя ставіць „адшкадаваньне“ коштам Польшчы?! Польская прэса добра пачула пагражаючую небясьпеку і вучыць Эўропу, каго трэба лічыць карысьнейшым дзеля „абароны цывілізацыі“, або дзеля вайны з бальшавікамі: Нямеччыну, ці Польшчу?

„Gazeta Warsz.“ сьцьвярджае, што ў англійскай апіні „пануе пераканаваньне, што дзеля прыхіленьня Нямеччыны да антыбальшавіцкай коаліцыі можна бяз хістаньня прынесьці ў ахвяру Польшчу“...

„Gaz. Warsz.“ кажа, што Польшча страшэнна ненавідзіць бальшавікоў, Польшча гатова бараніць цывілізацыю; усё, што хочаце, дзеля гэтай мэты яна зробіць. Але „быту свайго, самага свайго істнаваньня дзеля так пастаўленай мэты (!?) Польшча ахвяраваць ня можа і ня хоча“...

„Польская палітыка ня можа йсьці з зачыненымі вачыма за загадамі палітыкі Англіі,—ня можа гадзіцца на ахвяры, якія-б вялі яе **да палітычнага нябыту**“...

З гэтага голасу польскай газэты — ясна, як выразна і рэзка ставіцца ў Англіі справа коаліцыі з Нямеччынай і... Польшчай проці бальшавікоў...

З гэтага мы бачым, які зьмест мае выражэньне „за вельмі дарагую цану“ — у тэлеграме з Парыжу. Гэтая цана, як яе разумеюць у Польшчы,—„палітычнае нябыцьцё Польшчы“...

Можа, немцы так рэзка і ня ставяць справы ў перагаворах з Англіяй і—трэба думаць—з Францыяй. Але наагул **праблема выбару між Польшчай і Нямеччынай** стаіць на парадку дня і мусіць быць вырашана Антантай перад тым, як ставіць перад Нямеччынай задачу выбару паміж „Заходам“ і „Усходам“ — ці прасьцей, між англійска-францускай кампаніяй і — ССРР...

Як Нямеччына вырашае гэтае пытаньне **цяпер**, яна дала адказ у сваіх адносінах да справы ўваходу ў Лігу Народаў. Як Нямеччына **адкажа**, ці **адказала-б** тады, калі Англія з Францыяй зрабілі рашучы выбар паміж ёй і Польшчай **на карысьць Нямеччыны**, гэта— зусім іншая справа... Але, здаецца, ССРР можа быць спакойнай: ніякога актыўнага выбару Антанта ня зробіць...

Чаму? — Ды папросту затым, што наагул яна **страціла запраўдную актыўнасьць і ініцыятыву, якія зусім выразна перайшлі, прынамся ў Эўрапэйска-Азіяцкай палове сьвету,—да тых самых ССРР і Нямеччыны...**

Вось, у чым — галоўны і цэнтральны інтэрас і

## У Сойме.

У Сойме ў тую пятніцу закончылася другое чытаньне праекту аб зямельнай рэформе. Пададзена штось 600 з лішкам папраўак. У суботу пачалося галасаваньне папраўак.

Каб трохі папраўіць сваю апінію сярод шырокіх масаў сялянства, даўно здрадзіўшае яго інтарэсы „Wyzwalenie“ пачало, як кажуць, „рабіць абструкцыю“, ці перашкаджаць прыняцьцю праекту Соймам: „вызваленцы“ пачалі трэбаваць паіменнага (адкрытага, па прозьвішчам) галасаваньня кожнай папраўкі.

Гэткае галасаваньне 600 папраўак расьцягнецца наймениш на 3 тыдні, а паны паслы сьпяшаюцца на свае хвальваркі дамоў, дый ня ўсе хочуць, каб выбаршчыкі ведалі, як яны галасавалі. Дык вось уся панска-пэпээсаўская правіца Сойму даручыла выпрабаванаму ўжо ў Камісіі віцэ-маршалку паслу PPS Марачэўскаму знайсьці выхад з палажэньня і правясьці галасаваньне—„па ваеннаму“... Хіена-Пяста — пэпээсаўская большасьць Сойму за прыняцьце „рэформы“ забясьпечана... Можа, толькі Дубановічы ды Стронскія—прадстаўнікі „хрысьціянскіх“ (гэта значыць—найвялікшых) абшарнікаў будуць галасаваць проці—за захаваньне ў поўнай „цэласьці“ сваіх маёнткаў. Але заместа гэтых „хрысьціян“, страчаныя „Хіенай“ іх галасы папаўняць яшчэ з лішкам жыды і пэпээсы... Уся буржуазна-„сацыялістычная“ Польшча мурам паўстала і—чумой пайшла проці найбяднейшага сялянства, а перад усім — проці няпольскага—беларускага і ўкраінскага сялянства, — каб ня даць яму зямлі, засуджаючы яго на галодную сьмерць.

зьмест усіх сучасных падзей... Усё, што робіцца на сьвеце, а яшчэ больш — усё, што **будзе далей у ім рабіцца**, распачата, вядзецца і робіцца з ініцыятывы і актыўнай, няведаючай „буржуазнага“ спачынку „на лаўрах“ ці на мяшках з золатам—гэтых **маладзейшых** народаў. Дый куды ж гэтым усім старым, хаця і „цывілізаваным“, дагнаць маладзейшых?!. Яны ўжо засуджаны чакаць на тое, што станецца само, пакуль яны будуць „бараніць здабыткі цывілізацыі“, ці, папросту,—свае кішані!.. Бо—усе яны—спаралізаваны—хто сваім багацьцем, хто—„перамогай“, хто фінансава-мілітарнымі сухотамі...

## ВІХОР.

*(Да кітайскіх падзеяў).*

Ты закружыў і ломіш гмахі, —
Ляцяць яны, як лёгкі пух;
Твае мацуюцца узмахі,
Паўнее ўласьць твая і дух!..

Ты доўга быў закуты ў бочцы,
— Трымалі надта абручы...
Ты голы быў — цяпер ў сарочцы,
Ты багацееш, ідучы!..

Што новы крок, дык нова куча
Абломкаў, грузу старых здань;
Бо твая воля — вельмі зьлюча,
А цераз гэта — ёсьць ты пан!

А цераз гэта — я жадаю
Табе пасьпехаў і удач,
Цябе я шчыра паздраўляю,
За тое, што віхруеш ўскач.

А каб ты болей мог прыдбаці,
Дык большы — шыршы вырастай,
Ды, дзе ніхто ня змог дапяці,
— Туды імкніся, далятай!..

Твае ўжо зьдзейсьняцца жаданьні,
— Бо ўсьцяж ідзець, шпарчэе рух...
Дык, закружыўшы, ламі зданьні,
— Няхай ляцяць яны, як пух!..

**С. Сьвістун.**

# Нацыянальна-вызваленчы рух у Кітаі.

Тое, што цяпер перажывае Кітай, зьяўляецца аднэй з тых хваль вызваленчага руху, які паступова вядзе Кітай да поўнага нацыянальнага і клясавага вызваленьня Кітаю.

На чале гэтага руху стаіць народна-рэвалюцыйная кітайская партыя Гоміндан, якую заснаваў нядаўна памершы правадыр маладога Кітаю Сун-Ят-Сэн.

Гоміндан зьяўляецца магутнай народнай партыяй, моцна зьвязанай з самымі шырокімі кітайскімі масамі, і Гоміндан для гэтых мас ёсьць адзіная надзея і апора ў барацьбе супроць апанаваўшых іх край чужынцаў.

Роля гэтае партыі мае аграмаднае значэньне ня толькі ў вызваленчым руху ў Кітаі, але бадай што зробіць значны ўплыў на ход барацьбы працоўных масаў усяго сьвету.

Яшчэ ў другой палове 19-га стагодзьдзя пачалося народна-рэвалюцыйнае выступленьне працоўных мас Кітаю. 400-мільённае насяленьне гэтае аграмаднае дзяржавы складаецца бадай выключна з сялянства—з зямляробаў (80%), а рабочых усяго 3 мільёны.

Да 1911 году неаграніччана панаваў і грабіў кітайскі народ царскі род Ман-Джу. Царскае чынавенства і ваенныя бяскарна распраўляліся з безбаронным народам, трымалі ў цемры і высмактывалі яго творчыя сілы. Хутка абяссілены эканамічна Кітай стаўся ахвярай разросшагося цераз меру ў сябе дома эўрапэйскага капіталу.

Сялянскае паўстаньне „тайпінгаў“, у якім згінула больш 3 мільёнаў асоб, было задушана з нячуваным зьверствам багдыханскімі (царскімі) войскамі.

Пасьля гэтай крывавай лазьні лепшым сынам Кітаю зрабілася ясна, што барацьбу трэба вясьці з большай падгатоўкай і арганізованасьцяй і што, каб збавіць ад аканчальнай руіны край, трэба першым чынам нізрынуць багдыханскую ўладу.

На чале рэвалюцыйных сіл становіцца малады Сун-Ят-Сэн. Ён вядзе энэргічную падпольную працу па падгатоўцы баявікоў, засноўваючы партыйныя гранкі (ячэйкі) сярод працоўных і нездаволеных багдыханскім панаваньнем. Але ў 1895 г. яго падпольная арганізацыя праваліваецца, і Сун-Ят-Сэн, шчасьліва вырваўшыся з кіпцяў царызму, уцякае заграніцу, адкуль пастаянна трымае цесную сувязь з краем і вядзе далей падрыўную работу. Ён пысылае ў Кітай агітатараў з радоў Гоміндана, наладжывае сувязь з арміяй праз афіцэраў, арганізуе інтэлігенцыю. Асабліва Гоміндан глыбака пусьціў карані ў студэнцкую масу.

Эканамічны заняпад Кітаю і агітацыя Сун-Ят-Сэна прывялі ў 1911 г. да рэвалюцыі. Багдыхан скінуты; абвяшчаецца рэспубліка. Сун-Ят-Сэн выбраны першым прэзыдэнтам маладой рэспублікі. Але заваяваньні рэвалюцыі аказаліся няпоўнымі і нятрывалымі, бо ў барацьбу ня былі ўцягнуты шырокія масы.

Інтэлігенцыя, пайшоўшая за Сун-Ят-Сэнам, была заслабая і няздольная аканчальна ліквідаваць багдыханскі лад.

Бюракратыя і быўшыя багдыханскія саноўнікі пры помачы эўрапэйскіх капіталістаў павялі наступленьне супроць Сун-Ят-Сэна, які змушаны быў ізноў уцякаць заграніцу.

Быўшы на эміграцыі, Сун-Ят-Сэн вядзе сваю партыю на новы шлях барацьбы—на барацьбу супраць буржуазнай рэспублікі, робячы стаўку пераважным чынам на шырокія працоўныя масы.

У часе сусьветнай вайны Сун-Ят-Сэну ўдаецца захапіць уладу ў Кантоне (паўднёвая частка Кітаю) і стварыць рэвалюцыйны ўрад. Тут, у Кантоне, зьбіраюцца ўсе рэвалюцыйныя сілы дзеля барацьбы з чужаземным капіталам. Пасьля бальшавіцкай рэвалюцыі ў Расеі, партыя Гоміндан прыняла яшчэ больш выразны клясавы характар.

У 1924 г. ў лютым месяцы адбыўся ўсякітайскі зьезд партыі Гоміндан, на якім апрацована новая праграма, вельмі блізкая да камуністычнай, з чаго відаць, што гэтая партыя знаходзіцца пад моцным уплывам бальшавікоў.

Так, напрыклад, Гоміндан стаўляе сабе мэтай дабіцца аграніччэньня росту прыватнага капіталу, падзелу зямлі між працоўнымі, а для беззямельных сялян — такжа і срэдстваў дзеля апрацоўкі зямлі; далей — раўнапраўя для ўсіх нацыянальнасьцей, якія жывуць у Кітаі, нацыяналізаваньня ўсіх прадпрыемстваў і т. п.

Зразумела, што супроць Гоміндана мабілізуюцца ўсе рэакцыйныя сілы, контр-рэвалюцыйныя генаралы, але моцна зьнітаваныя сваей ідэяй рады Гоміндана ня толькі адбіваюць напады, але і самі пераходзяць у наступленьне.

Апошнія забурэньні ў Кітаі сьведчаць аб тым, што шматміліённыя кітайскія масы, пакрыўджаныя і галодныя, прабудзіліся і з барацьбой дамагаюцца сваіх правоў.

Вялікі рэвалюцыянэр Усходу Сун-Ят-Сэн укалыхнуў працоўныя масы жоўтай расы і паказаў шлях для клясовага і нацыянальнага вызваленьня.

**N.**

## Голас кітайца.

Д-р С. Чэу-Вэй, генаральны сэкрэтар кітайскае дэлегацыі пры Лізе Народаў, напісаў гэткую стацьцю аб здарэньнях у Кітаі. Такім чынам гэта—голас самога кітайскага народу, які найлепей выяўляе істоту кітайскага рэвалюцыйнага руху.

Сучасныя здарэньні ў Кітаі пачаліся ад аднаго выпадку, чыста эканамічнага характару, а іменна: у Шанхаі мы маем больш за 50 прадзільняў бавоўны, з якіх больш паловы належыць да англійцаў, а рэшта—да японцаў. Працуюць жа тамака кітайскія работнікі, якім вельмі блага плоцяць, а яшчэ горш з імі абходзяцца. У лютым сёлетняга году работнікі японскіх фабрык забаставалі. Забастоўка пайшла гэтак удачна, што работнікі дабіліся павялічэньня платы. Але благія адносіны да работнікаў ня спыніліся, — наадварот, пасьля забастоўкі йшчэ пагоршыліся. Японскія майстры імсьціліся над кітайскімі работнікамі за ўдачную забастоўку, білі іх пры кожнай нагодзе бамбукавымі кіямі. Білі вельмі балюча, бязміласэрна, навет па галаве. Раз здарылася, што японскі майстра, удэрыўшы кітайскага работніка з усяе сілы па галаве, забіў яго на сьмерць. Вось, гэтае здарэньне і выклікала забастоўку пратэсту ўва ўсіх японскіх прадзільнях. Да забастоўкі далучыліся так-жа работнікі англійскіх прадзільняў, каб гэтак выявіць свой спогад таварышам. Была з'арганізавана супольне мірная дэманстрацыя пратэсту, да якой далучылася так-жа студэнцкая моладзь. Кітайская паліцыя бяз ніякае труднасьці падтрымлівала парадак, бо дэманстранты вялі сябе зусім спакойна. Затое англійская паліцыя, зложаная з індусаў (вось, характэрны прыклад цкаваньня народу на народ!—*Рэд.*), пачала разганяць дэманстрантаў і да разыходзіўшыхся студэнтаў і работнікаў пачала страляць. У выніку гэтае страляніны 10 кітайцаў былі забіты, 20 ранены. Аказалася, што ўсе раны былі зроблены ім ззаду, значыць, што паліцыя страляла да ўцякаўшых безаружных людзей.

Гэтае здарэньне абурыла да глыбіні кітайскае грамадзянства—проці англійцаў і японцаў. Дэманстрацыі былі зусім законныя, тым балей, што яны адбываліся зусім без аружжа, ні на каго не нападалі, а толькі дамагаліся права рабіць эканамічныя забастоўкі, агульна прынятага спосабу самаабароны работнікаў, ды скасаваньня біцьця, якое пагражае жыцьцю кітайскіх работнікаў.

Дык да стыхійнага пратэсту шанхайскіх работнікаў і студэнтаў далучыліся так-жа іх таварышы з другіх мест, і гэтак проці-англійскі і проці-японскі рух разьліўся па ўсенькім краю. Але і гэтыя новыя дэманстрацыі мелі зусім мірны характар. Пацьвярдзіла гэта мімаволі алглійская газэта „Daily Mirror“, якая зьмясьціла фатаграфію сьцягу дэманстрантаў: „Дамагаемся справядлівасьці, але ніколі ня ўжываем гвалту“.

З прычыны непрымірымага становішча, якое занялі англійцы, агульнае абурэньне кітайскага народу давяло да стыхійнага адруху пратэсту проці ўсіх наагул чужацкіх прывеліяў у Кітаю, абражаючых кітайскую сувэраннасьць, а іменна: проці экстэрыторыяльнасьці, падаткаў, права ўжываньня аружжа, непадляганьня краёвым судам і г. д., што зьяўляецца галоўнай прычынай недаразуменьняў паміж каранным насяленьнем і чужакамі. Запраўды з гэтых неабаснаваных прывілеяў карыстаюць толькі вялікія дзяржавы, другія-ж—не. Дык проці апошніх рух і не скіраваны. І затым гэтага руху нельга тлумачыць ненавісьцяй да ўсіх чужынцаў наагул, як даводзяць англійцы.

**Мы хочам толькі таго, каб ніводзін чужынец ня меў у нас у краю больш правоў, чым мы самі**; кожны ляяльны чужынец будзе мець зусім забясьпечанае раўнапраўе.

Рух гэты сьведчыць, што **мера цярплівасьці кітайскага народу перапоўнілася.**

**Мы хочам астацца ў сваім краю—гаспадарамі!..**

**Д-р С. Чэу Вэй.**



# Апошнія падзеі у Кітаі.

Новы ўрад паўдзённага Кітаю разаслаў ноту, абвяшчаючы сябе зусім незалежным ад пекінскага ўраду („цэнтральнага“). У гэтай ноце першы раз урад называе сябе „ўрадам работніцкіх і сялянскіх радаў Кітаю“.

---

Прапазіцыя Амэрыкі аб скасаваньні „экстэрыторыяльнасьці“ (асобных прывілеяў—судовых і іншых) для чужаземцаў у Кітаі адкінута Англіяй і Японіяй...

Як ведама, гэтая „экстэрыторыяльнасьць“ — непадлежнасьць чужаземцаў кітайскім законам і ўрадам—найбольш дражніць кітайцаў, бо стварае фактычную бяскарнасьць для чужаземцаў; што-б яны ні рабілі агіднага, шкоднага і праступнага ў адносінах да кітайцаў: свае суды „пакрыюць“...

---

Англійскія газэты пішуць, што камандаваньне радавых войскаў, сканцэнтраваных над Байкалам (вялікае возера ў Сібіры) і ў Манголіі, знаходзіцца ў цесным кантакце з кітайскімі вайсковымі ўладамі. Усюды радавыя інструктары ў кітайскіх ваенных часьцях. Апрацавана новая вайсковая прысяга для жаўнераў кітайскіх, у якой яны заклікаюцца да барацьбы з Англіяй да апошняй каплі крыві.

---

Англія, якую моцна б'юць у Кітаі (да чаго Японія толькі прыглядаецца з цікавасьцяй), — зразумела цяпер, якім карысным быў для яе сарваны ёй-жа на Вашынгтонскай канфэрэнцыі (дзеля Амэрыкі) саюз з Японіяй. Дык вось з Токіо пішуць, што англійскі ўрад зрабіў крокі ў справе аднаўленьня саюзу з Японіяй.

Закруціліся на ўсе бакі...

---

З Лёндану пішуць:

У Шанхаі палажэньне завастраецца з дня на дзень. Забастоўка пашыраецца і лепш арганізуецца. Пагражае забастоўка на вадакачцы і электрычнай станцыі.

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### Перад забастоўкай сельскіх-работнікаў.

Забастоўка сельска-гаспадарскіх работнікаў, правалёная пэпээсамі вясной, як ведама, адложана была на восень да часу жніва. Пэпээсаўскі Саюз сельска-гаспадарскіх работнікаў усё вядзе перагаворы з аб'яднанымі абшарнікамі, выпрашываючы ў іх розныя дробныя ўступкі. Але абшарнікі, веручы моцна ў свой урад, ведаючы, што ён ні перад чым ня спыніцца дзеля ратаваньня новага ўраджаю, ад якога папросту, як сьцьвярдзіў прэм'ер, залежыць цудоўнае адратаваньне Польшчы ад фінансава-эканамічнага краху.

Памятаюць і яны, і дворныя работнікі знамянітае „ўсьмірэньне“ забастоўкі ў восені 1919 г., зробленае паводле дыспазіцыі самога пэпэсаўскага Начальніка Паньства Пілсудскага і яго міністра ўнутраных спраў Войцеховскага!.. Дык ці-ж бы браты Грабскія з мін. Рачкевічам былі горшыя памешчыкі ці—лепшыя абаронцы правоў работнікаў, чым п. п. пэпэсы Пілсудскі і Войцеховскі?!.

На 19 ліпня назначаны зьезды дворных парабкаў, якія зробяць аканчальную пастанову. Дамаганьні работнікаў—чыста эканамічныя і вельмі скромныя: у „кангрэсоўцы“ падняць плату на 25—50%, у Пазнані і Паморы—на 25—75%. Настрой работнікаў, ня гледзячы на пэпэсаўскія лагодзячыя пігулкі,—вельмі вострыя.

### Новы „захват“ польскага афіцэра радавым атрадам.

Карэспандэнт „Dz. Wil.“ піша аб новым выпадку „podstępnej taktyki“, — „porwania przez Sowiety“ польскага афіцэра пагранічнікаў, Рондоманьскага. Быццам два польскія афіцэры вялі на граніцы з радавым камандантам перагаворы аб зьліквідаваньні канфліктаў, калі раптам на іх—на нейтральным пасе—напала банда радавых жаўнераў з 2 кулямётамі і захапіла абодвух польскіх афіцэраў. Аднаго з іх 4 прысутныя польскія жаўнеры здалелі адбіць, а другі—Рондоманьскі—астаўся ў радавых руках.

Газэта падчырківае яшчэ раз, што ўсё гэта адбылося на нэйтральным пасе, што ні адна з старон не перайшла граніцы; і што „з радавага боку гэта — ужо другі нячуваны выпадак нарушэньня граніцы і падступнай іх тактыкі“.

Нажаль, як першы выпадак, так і гэты другі неяк выглядае зусім інакш, прычым—ня толькі ў асьвятленьні радавых уладаў.

У першым выпадку „падступна парваны“ паручнік Мончыньскі, як аказалася, сам уцёк да СССР, як гэта заявіў Чычэрын у сваім пратэсьце, і як гэта сцьвярдзіў сам пар. Манчыньскі ў адкрытым лісьце, што да другога выпадку, дык канфуз... карэспандэнта „полупочтенной“ (як кажуць расейцы) газэты п. Обста яшчэ скандальнейшы. Бо сама-ж газэта цераз нумар падае гэткія падробнасьці захапленьня пар. Рандаманьскага. Аказываецца, што пар., паверыўшы, што яму дадуць шпіёны на тым баку граніцы цэнныя весткі аб дэвэрсыйных бандах, сам перайшоў граніцу і ў часе размовы і „перагавораў“—не з „камандантам радавага атраду“, але з „шпіёнам“ — быў схоплены і адведзены за радавы кардон.

Нажаль, толькі „шпіён“ аказаўся фальшывым.

Вось, як выглядаюць інфармацыі „ўласных карэспандэнтаў“ газ. п. Обста.

### Раскрыцьце шпіёнскай арганізацыі.

У Варшаве раскрыта вялікая шпіёнская („на карысьць суседняй дзяржавы“) арганізацыя, на чале якой стаяў былы расейскі афіцэр Ілініч. Гэты Ілініч жыў некалі ў Вільні — у „Жэлігоўскія часы“, дзе займаўся арганізацыяй „артыстычных клюбаў“, папросту—шулерняў. Гэтым самым ён— у шмат шырэйшым маштабе—заняўся і ў Варшаве, а гэта расчыніла яму ўсе дзьверы і ўсе душы ў сталіцы.

Ен быў выбраны прэзэсам 2-х „лявіцовых“ банкаў—аднаго навет „хлопскага“. Банкам гэтым урад не шкадаваў даваць вялікія—міліённыя крэдыты—„на дапамогу сялянам“ ці... на падтрыманьне ў пэўных „рамах“ апазіцыйнасьці „Jedności Ludowej“ („домбчыкаў“) ці „Wyzwolenia“. Гэтыя вялізарныя сумы былі папросту растрачаны, а банкі лопнулі... Але справу гэтую затушавалі... І вось цяпер аказалася, што з гэтым п. Ілінічам супрацоўнічалі—ці „ідэйна“, ці за добрую плату — агромны круг вельмі ўплывовых польскіх дзеячоў, перад усім з лявіцы і—з вайсковага сьвету. Так прынамся піша правая прэса... Сьпіску гэтых скампрамітаваных асоб газэты яшчэ не падалі, бо сьледзтва йдзе, але ўсе сцьвярджаюць. што „korupcja“ (падкупнасьць) шырока ўелася ў польскае грамадзянства сталіцы...

Што ж,—самі сябе яны ляпей ведаюць...

### Прысуд у справе „рэдактора“ Траяноўскага.

Былы „рэдактар“ „Walki Ludu“ і адначасна агент-правакатар варшаўскай палітычнай паліцыі Траяноўскі, які, рыхтуючы бомбу на 1 траўня, зрабіў выбух у памешканьні рэдакцыі гэтай газэты, засуджаны судом на 10 месяцаў вастрогу....

### Няўдалы замах на ваенныя склады ў Львове.

Каля ваенных складаў у Львове знойдзена бомба з кнотам, якая мела быць ужыта пры замаху на склады.

## Заграніцай.

### Прамова Фрунзэ.

З Вены паведамляюць, быццам у прамове да чырвона-армейцаў Фрунзэ, глаўнакамандуючы ўсіх збройных сілаў СССР,—заявіў, што трэба быць гатовым да вайны з Англіяй. — Англія, як можна думаць, пачне нешта проці Кітаю. Але Расея ня будзе спакойна глядзець на тое, як Англія, мо' разам з Японіяй, пачне дзяліць Кітай. Не паддасцца гэтаму, зразумела, і Кітай...

### Працэс 77 камуністаў у Рэвэлі (Таліне).

10/VII пачаўся ў Таліне (сталіца Эстоніі) працэс 77 камуністаў, зьвязаны з ведамай спробай камуністычнага перавароту. Заінтэрэсаваньне працэсам — аграмаднае. Масы народу—навакол гмаху суда.

### Лічба насяленьня ў Нямеччыне.

Апошняя перапісь у Нямеччыне дала лічбу насяленьня яе ў 63 міл., 250 тысяч душ.

### Забарона ўвозу англійскага вугольля ў Нямеччыну.

Нямецкі ўрад пастанавіў забараніць прывоз у Нямеччыну англійскага вугольля.

### „Разбраеньне“.

Англійскі ўрад пастанавіў пабудаваць яшчэ 4 крэйсеры...

### Белы тэрор у Баўгарыі.

За апошні час у Баўгарыі цанкоўскія суды вынясьлі 75 сьмяротных прысудаў. Усе—проці правадыроў рэвалюцыйнага сялянства.

### Вайна ў Марокко.

Францыя згаварылася з Гішпаніяй у справе супольнай акцыі проці марокксніх паўстанцаў; францускі парлямант зацьвярдзіў вялікія крэдыты на вайну—„на абарону францускай павагі і Заходняй цывілізацыі ў Марокко“. Але штось усё гэта мала памагае. Ізноў весткі з францускіх крыніцаў — „пабедныя“, а з іншых — наадварот — кажуць аб тым, што французаў Абд'эль-Крым б'е...

У Лісабон пішуць з Фэцу, што значнае места Тазанг, шлях у Фэц — амаль не абложана войскам паўстанцаў.

З Танжэру паведамляюць, што рыфэны прарвалі чыгункавую лінію Таза-Альгер і захапілі вялікшую частку гэтага шляху. З гэтага відаць, што і места Фэц (сталіца краю) паважна загрожана.

А з Парыжу ўсе пішуць, што мір з Абд'-Эль Крымам магчымы толькі тады, калі ён пакорна „прыме ўсе варункі, прадыктаваныя яму Францыяй у паразуменьні з Гішпаніяй...

### Замах на Мікадо.

Японскія газэты вельмі асьцярожна пішуць аб зробленым яшчэ ў чэрвені тэрорыстычным замаху на Мікадо (японскі імпэратар). Дагэтуль, відаць, загадана было маўчаць.

### Вайсковы пераварот у Эквадоры.

У дробнай дзяржаўцы паўдзеннай Амэрыкі Эквадоры зроблены войскам дзяржаўны пераварот. Захапілі ўладу генаралы.

## ХРОНІКА.

**Ліквідацыя „языковых“ законаў.** Кураторыум паведаміў Віленскую Беларускую Гімназію, што Мiністэрства Р. В. і П. Асьв. паперай за № 1119/25 з дня 26./V.—1925 г. выясьніла, што дырэкцыя школы мусіць мець зносіны з урадамі толькі папольску. І таму загадвае ад часу атрыманьня гэтага паведамленьня сьцісьле датасавацца да гэтага.

Кураторыум паведаміў Вілен. Беларус. Гімназію, што згодна з выясьненьнем М. Р. В. і П. Асьв. паперай за № 4022 з дня 26./VI. — 1925 г. школы з няпольскай выкладовай мовай мусяць вясьці лекцыі агульнае гісторыі і агульнае географіі папольску.

**Да ведама паступаючых у школы.** Кураторыум паведаміў Віл. Бел. Гімназію, што пры прыйме новых вучняў трэба **безварункова** вымагаць пасьведчаньня аб выхадзе са школы, дзе кандыдат вучыўся ў апошні год, або выразнага зазначэньня ў просьбе, што кандыдат у ніякой школе ня быў.

**Інфармацыі п. Обста.** „Dz. Wil.“ надовячы надрукаваў чародны ілжывы данос на віленскіх беларусаў. Гэтым разам газэце не дае спаць Беларускі Нацыянальны Камітэт, аб дзеяльнасьці якога рэдакцыя нічога ня ведае і тым балей баіцца яе... А каб яго выступленьне проці Бел. Нац. К-ту было „актуальным“ па часе, рэдакцыя **выдумала**, быццам 11-га ліпня с. г. меўся адбыцца „антыпаньствовы“ зьезд Камітэту. Хаця такі зьезд ані меўся адбыцца, ані адбыўся, — аднак Обст кліча патэтычна, каб польская ўлада „ратавала“ Польскую дзяржаву ад гэтага страшнага ворага, які мае сувязі з Менскам і з Коўнам, і яшчэ нет вядама з кім.

**Баламуцтвы органу „доктара“ Павлюкевіча.** З месяц назад агенты „доктара“ Павлюкевіча выдумалі і пашыралі на славах брахню, быццам былы карэктар беларускіх левых газэт, Шалешка, які з прычыны паліцэйскага перасьледаваньня быў прымушаны ўцячы ў Менск,—расстраляны бальшавікамі па загаду (?!) аднаго вядомага беларускага дзеяча з Вільні. Хаця за гэты час **жонка Шалешкі спакойна даставала ад „жывога нябожчыка“ пісьмы**, у якіх той пісаў, што ён жыў, здароў і добра ўстроіўся,—„Грамадзкі Голас“ паўтарыў цяпер гэную брахню, аднак, баючыся судовае адказнасьці, не назваў гэтага „ўсемагутнага“ дзеяча, але толькі паставіў першаю літару яго прозьвішча: Л.

Відаць, „доктару“ некім загадана распачаць новы бандыцкі паход проці п. Л., і трэба спадзявацца, што газэта Павлюкевіча не пабрэзгуе апублікаваць у найбліжэйшым часе і сфабрыкаваны год назад „дакумант“: фальшывае місьмо Чарвякова, галавы Радавага Ураду Беларусі, пісанае быццам-то да таго ж грам. Л., фатаграфію якога нашым супрацоўнікам даўно паказвалі, называючы імя аўтара — аднаго дэфэнзыўнага „дзеяча“. Толькі-ж пісьмо гэнае так няўдала падроблена, што гэта само сабой кідаецца ў вочы і пазбаўляе гэны „дакумант“ усялякае вартасьці для дэфэнзывы.

Надовячы польскія газэты наказывалі, што склад супрацоўнікаў „Грам. Голаса“ папоўнены „новымі сіламі“. Можна цяпер мець акуратнае выабражэньне, якога гатунку гэтыя „сілы“....

**Аб перамене граніц у Віленшчыне.** „Dz. Wil.“ падае распараджэньне Рады Міністраў аб перамене граніцаў у Віленшчыне.

Арганізуецца новы павет Маладзечанскі, павятовая ўлада з Дунілавіч пераносіцца ў Паставы з пераменаю назову Дунілавіцкага пав. на Пастаўскі.

Воласьці: Маладэчна, Краснае, Радашкавічы, Лебедзеў і Гарадок пераходзяць з Вялейскага пав., а Беніцкая вол. з Ашмянскага пав. — у Маладэчанскі

## Нямеччына і Ліга Народаў.

(*Ці трыкутнік: „Бэрлін-Менск-Араны“*).

Нямецкая прэса выступае выразна проці ўваходу Нямеччыны ў Лігу Народаў. Гэты ўваход, піша адна з газэт, карысны перад усім для тых дзяржаў, якія заінтэрэсаваны ў тым, каб зьвязаць Нямеччыну—ужо з яе боку „дабравольна“ — Вэрсальскім Трактатам. — Да гэтых дзяржаў **не належыць** у першую чаргу—сама Нямеччына... Другі матыў: гэтым уваходам Нямеччына тым самым ужо станула-б на бок заходніх дзяржаў проці Ўсходу—у надыйшоўшым ужо канфлікце між імі, а гэта—зусім не ў інтарэсе Нямеччыны... Але англійскія палітычныя гандляры (ведама, формула аднаго з вялікіх англійскіх прэм'ераў: „палітыка Англіі—гэта-ж англійскі гандаль“), разумеюць гэта так, што Нямеччыне трэба вельмі „груба“ заплаціць за гэты ўваход у Лігу, ці — пераход „на бок Заходу“...

Ці згодзіцца Нямеччына на тую „плату“, якую, можа, тайна ўжо суляць ёй яе будучыя „саюзьнікі“, і—ці згодзяцца яны на тую плату, якое зажадае ад іх Нямеччына, вось у гэтым цяпер—цэнтр палітычнага мамэнту. Чым, або кім будуць плаціць Нямеччыне, гэта-ж—ясна, як дзень... **Як** заплоцяць,—гэта цікавае пытаньне: з таго, што пішуць францускія газэты аб зусім адкрытых прыгатаўленьнях немцаў да захвату польскага калідору, ясна, што „першую рату“ з гэтай платы „саюзьнікі“ папросту — дазволяць немцам самым заплаціць сабе....

### Манэўры літоўскай арміі на польскай граніцы.

3/VII пад Аранамі, каля лініі Варшава-Вільня, пачаліся вялікія манэўры ўсіх родаў аружжа літоўскай арміі... Гарматы пастаноўлены ў адлежнасьці 1 вярсты ад польскае граніцы....

### Радавыя манэўры на абшары Беларускай Рэспублікі.

У „Dz. Wil.“ са Стоўпцаў даносяць, быццам на тэрэторыі Радавай Беларусі пачаліся вялізарныя манэўры. Транспарты войск ідуць у напрамку на Менск.

### Узноўленьне паштова-тэлеграфных зносінаў Менску з Польшчай.

„Радавая Беларусь“ паведамляе, што ад 6 ліпня адкрыты паштова-тэлеграфны абмен Менскай пошты з Польшчай.

---

пав., Янішская вол., Віленскага-Троцкага пав. і Дукштанская, Браслаўскага пав. прылучваюцца да Сьвянцянскага пав.

Воласьці: Вішнева, Жодзішкі і Войстам з Сьвянцянскага пав., а Будзслаўская з Пастаўскага пав. пераходзяць у Вялейскі пав.

Воласьці: Ясево, Кабыльнікі, Замарочава з Сьвянцянскага пав. пераходзяць у Пастаўскі павет.

Воласьці: Багінская, Ёдзкая, Новы Пагост, Перабродзьзе, Друя, Міоры, Леонполь і Чэрэс з Дзісьненскага пав. пераходзяць у Браслаўскі.

Воласьці: Тымілавецкая, Докшыцкая, Парафіянаўская, Парпліцкая з Пастаўскага пав. пераходзіць у Дзісьненскі.

Вёскі: Сьвятланы, Рыбакі і маёнтак Сьвятланы з Жодзішскай вол. пераходзяць у Смаргонскую вол., Ашмянскага пав.

Распараджэньне ўваходзіць у сілу з 1-га студзеня 1925 года.

**Баталія пры будове фортаў у Вільні.** „Słowo“ апавядае: „10 гэтага месяца забаставалі работнікі, якія працуюць пры будове фортаў—ад фірмы Шопа і Ціммэрман. З прычыны таго, што адзін з работнікаў Н. Пракаповіч (Сьверковая 5) ня быў салідарны з забастоўшчыкамі, работнікі пачалі біць яго палкамі. На крык пацярпеўшага прыбеглі жаўнеры, каб ратаваць яго, і задзяржалі разьюшаных: Альфрэда Ясюнаса, Станіслава Молоцяньскага і Браніслава Буткевіча. Рэшта работнікаў кінулася на жаўнераў, каб адбіць задзержаных. Узьнялася грозная баталія. У гэтым часе жаўнеры пусьцілі ў ход аружжа, страляючы ў паветра. Нападаўшых аддалі ў рукі паліцыі“.

Паводле „Dz. Wil.“, забаставала 28 работнікаў. Паліцыя арыштавала 4.

У хуткім часе выйдуць з друку праграмы для паступленьня ў Беларускія гімназіі. Выпісваць можна з Вільні — Беларуская Гімназія (Вострабрамская 9) і Беларускай кнігарні (Завальная 7), з Клецкай Беларускай Гімназіі (Клецк Нясьвіжская вул. 53), з Навградзкай Беларускай Гімназіі (Рынкавая 14) і Радашкавіцкай Беларускай Гімназіі (Радашкавічы).

# Карэспандэнцыі.

## Беларускі спэктакль у м. Радашкавічах.

21-га чэрвеня сёл. г. вучні Радашкоўскае Беларускае Гімназіі пад кіраўніцтвам вучыцеля Я. Гаўрыліка на разьвітаньне перад разьездам дамоў зладзілі беларускі вечар.

Была пастаўлена п'еса Аляхновіча ў 3-х актах „На Антокалі“. Калі прыняць пад увагу, што ў канцы году вучні маюць мала вольнага часу, каб займацца па-за-навуковымі справамі і рыхтавацца да спэктаклю, дык п'еса аказалася згулянай неспадзявана і наўзьдзіў удала.

Трэба прызнаць, што „На Антокалі“—рэч сама па сабе занадта цягучая і ня мае яркіх эфэктаў сюжэту, як іншыя сцэнічныя творы таго-ж аўтара, так што, каб усьцяж патрымлівтць у публіцы цікавасьць і ўвагу, трэ, каб гульня артыстаў была жывой і выкананьне роляў беззаганнае. Гэта якраз і было дасягнена.

Не гаворачы ўжо аб Вінцэнце (роль п. Гаўрыліка), добра былі выкананы ролі Язэпа (Даўнара), Зоські (Гаўрылічанка А.), Міхці (Куніцкая Г.), Барбары (Гаўрылічанка Г.), і жабракоў (Куніцкі Я. вуч. V кл. і Трахімчыкавічанка Ніна, вуч. III кл.), Ігнат Радзівіловіч (Ёда М., вуч. VII кл.) мясцамі быў надта на месцы, а мясцамі быў слабы, але гэта нічога дзіўнага, бо артыст першы раз уступіў на сцэну. З гэтай бадай прычыны, ці мо' дзеля таго, што ня ўсім-жа радзіцца з актарскім талентам, роль Зарубача (Русецкі Я.) была выканана зусім слаба. Наагул-жа гэта п'еса, у якой патрабавалася аж 20 асоб учасьнікаў, паказала, што на зьмену выбываючым матурыстам прыбываюць спадзейныя новыя артыстычныя сілы з ніжэйшых клясаў. У канцы хор пад кіраўніцтвам таго-ж п. Гаўрыліка нязвычайна хораша прапяяў цэлы рад прыгожых, то мэлёдычна-сумных, то вясёла-бурных беларускіх песьняў, чым аканчальна заваражыў і задаволіў публіку.

**В.**

## Падаткавыя справы.

(*Дунілавіцкі пав., Парахвенаўшчына*).

У Парахвенаўскай валасьці, як і ўва ўсім Дунілавіцкім павеце, па вёсках і хутарох цяпер стогн і плач. Стары хлеб ужо зьедзены, бо яго летась і мала ў нас урадзіла, сьвежае жыта яшчэ толькі наліваецца, а бульба навет і не зацьвіла. Голад сваей кашчавай рукой сьціснуў усіх за горла і... душыць, душыць да сьлёз, да сьмерці, навет і досыць багатых (як на нашы варункі) гаспадароў. Зарабіць капейку негдзе — усе замёрла, навет лясоў і тых не сякуць.

Хлеба!.. Есьці!.. крычаць бедныя людзі. І, як у адказ на гэты лямант, Дунілавіцкі Urząd Skarbowy ўжо два тыдні „моцнай рукой“ спаганяе падаткі. Сэквэстратары з стражнікамі рассыпаліся па валасьцёх, ім няма дзела, ці ты сыты, ці галодны, — ім трэба грошы!..

Глухія і сьляпыя на стогны і сьлёзы галодных людзей сэквэстратары апісваюць апошнюю скаціну, забіраюць вопратку і навет часта-густа куфры жанчын. Бяруць за падаткі, якія не заплачаны, але так-жа бяруць і за тыя, якія даўно заплачаны, але, дзякуючы добраму гаспадараваньню бышага перш у Дунілавічах начальніка „Urzędu Skarbowego“, Уладыслава Ружэвіча, гдзесьці згінулі...

А трэба зазначыць, што пры Уладыславе Ружэвічу (дай Божа, каб ён больш нігдзе і ніколі ў нас на Беларусі начальнікам ня быў!) здаралася надта часта, што адзін і той самы падатак спаганялі па некалькі разоў. Калі гэта здаралася з людзьмі, больш менш разьвітымі, то ім, хоць і з вялікімі трудамі (навет часта даражэйшымі, чым сам падатак!) удавалася даказаць несправядлівасьць. Але беднаму няпісьменнаму селяніну не ўдавалася гэта ніколі, бо да яго скарг былі глухі ўсе ўрадоўцы, а дзьверы кабінэта начальніка шчыльна зачынены. Але-ж што-ж тут дзіўнага: ён папольску ня ўмее, а гаварыць пабеларуску ўрадоўцы былі „непавінны“. Былі і такія выпадкі, што з „Urzędu Skarbowego“ высылаліся пісьмы без нумароў, часамі на адну і тую справу, у адзін і той самы дзень аднэй і тэй самай асобе і навет на адзін і той самы адрас, высылалі два апросныя блянкі („zeznanie o dochodzie“) і, калі хоць на адзін з іх хтосьці не адказываў,—штрафавалі, а адказываў — абкладалі два разы адным і тым самым падаткам.

Так было даўней пры старым начальніку (перапрашаю, гадамі ён надта малады!), Уладыславе Ружэвічу. Цяпер яго ўжо ад нас забралі. На яго мейсцы ў нас цяпер засеў п. Шаворэйко і пачынае ўсё заводзіць пановаму. Але гэта пакуль што нам надзвычайнай палёгкі не прынясло. Праўда, у „Urzędzie Skarbowym“ памочнік начальніка, пан Рэгіна, ужо адважыўся загаварыць да тых і сіх інтэрасантаў пабеларуску, зачынаюць гаварыць пабеларуску патроху і сэквэстратары, а пан начальнік ужо не зачыняе, здаецца, свае дзьверы ад мужыкоў на пяць замкоў.

Але нам ад гэтага пакуль-што лягчэй не зрабілася, сэквэстратары апісываюць і зьбіраюцца прадаваць апошнюю скаціну, забіраюць кажухі, а што будзе далей?.. Бог яго ведае? Пажывем—пабачым. Можа і ў нас пад вакном здохне воўк...

**Свой.**

## Безнадзейнае палажэньне.

(*Пацаўская гміна, Слонімскага пав.*).

Што каму баліць, той аб тым і крычыць, гэтак заўсёды кажа наш народ і гэта чыстая праўда. Так і я, хоць ня першы гэта ўжо раз, аднак, мушу выказаць свае болькі, выліць сваю роспач, каб, як кажуць, было спакайней на сэрцы.

Колькі разоў прыходзілася адзначаць на шпальтах беларускіх газэт аб цяжкім палажэньні беззямельнага сялянства на абшарах Польскае Рэчыпаспалітае. Ніхто навет з старых людзей не памятае такога цяжкага палажэньня, якое цяпер усякі перажывае. Апошнія два гады 1924—5 гэта будуць сьведкі сучаснага ліхалецьця.

Можна сабе прадставіць горкае жыцьцё беззямельнага і малазямельнага ў гэтыя часы, калі панскі двор адгарадзіўся ад беларускага мужыка, як-бы калючым дротам. Селянін наш, заўсёды гэтак патрабуючы заробку, астаўся цяпер без таго мізэрнага заробку, якім карыстаўся у даваенныя часы. Цяпер-жа на месца беларускага работніка-парабка, які бяз сумліву працаваў і працаваў-бы цяпер, пан Ян Стравінскі з м. Міроўшчыны, ня хочучы больш мець нічога супольнага з гэтымі „хамамі“, навёз з „królewstwa“ сабе работнікаў-парабкоў, якія выпаўняюць усю дворную і палявую работу. А ты, бедны працаўнік, хоць паліваў потам і крывёю гэтыя панскія абшары ў часы паншчыны, хоць спазнаў смак панскага бізуна, цяпер мусіш сядзець галодны з малымі дзеткамі і чакаць лепшых дзён на краю магілы.

**Н. Жальба.**

# Беларусы у Чэхаславакіі.

## „Крыўская“ інтрыга.

Што нашы „прыяцелі“—маскалі, узгадаваныя ў традыцыях царскае Расеі, стараюцца адрываць беларускія сілы дзеля служэньня „единому русскому народу“, што з гэтай мэтай яны ўтварылі тут, у Празе, „общество белоруссов и малороссов“ пад назовам „Единство русской культуры“, а ў Парыжу—„Северо западное Землячество“,—у гэтым няма нічога дзіўнога. Расейскі нацыяналізм ніяк ня можа супакоіцца, што дзесяцімілённы беларускі народ пайшоў па шляху самастойнага культурнага існаваньня і адмовіўся быць нейкім гноем дзеля „вышэйшае“ расейскае культуры! Але, калі разьбіваньнем беларускіх сіл, як суцэльнага народу, займаюцца „свае“, дык аб гэтым маўчаць немагчыма.

Нядаўна тут— у Празе — заснавалася новае таварыства пад назовам: „Крывіцкае (беларускае) культурнае таварыттва ім. Д-ра Францішка Скарыны“, якое пачало аб'ядныйваць каля сябе беларускую студэнцкую моладзь. Ведама, што такое аб'яднаньне нашага студэнцтва на культурным грунце — вельмі пажадана, што з гэтага толькі трэба цешыцца і вітаць працу ў гэтым напрамку. Аднак, бываючы на засяданьнях і рэфэратах таварыства, я заўважыў, дзе тутака закопан „чортаў капыт“....

Справа ў тым, што тут па ініцыятыве і па інструкцыям п. Ластоўскага з Коўны вядзецца сільная агітацыя, каб Беларусь не называлася Беларусяй, але „Крывіяй“. Навет у статуце таварыства (ведама, нікім не зацьверджаным) стаіць: Т-ва „Крывіцкае“, а потым збоку ў скобках: (Беларускае), і за даляры, прысыланыя праз п. Ластоўскага, пішацца літэратура ў гэтым напрамку.

Самая ідэя называць беларускі народ іменем аднаго з пляменьняў яго—зусім бязглуздая. Ды калі-б жа гэта была толькі дурнота! Справа, на жаль, зусім ня ў дурноце, бо такая работа, замест аб'яднаньня, можа павясьці да раздробленьня і без таго ня зусім скансалідованага нацыянальна і палітычна беларускага народу. Датаго-ж увесь сьвет ведае наш народ і нашу зямлю, як Беларусь. Дый называньне нашага народу іменьнем аднаго з трох беларускіх пляменьняў нам ня толькі нічога не паможа, а пашкодзіць, бо ўжо цяперака, на пражскім грунце, грамадзяне дрыгвічы пачалі пратэставаць проці крывіцкага іменьня, а пасьля знойдуцца яшчэ радзімічы, паляшукі і іншыя.

Можна думаць, што тут за плячыма п. Ластоўскага стаіць нехта іншы, хто добра ведае палітыку нябожчыцы Аўстра-Вэнгрыі: Divide et impera! Ці-ж ня ведама, колькі лішняе працы каштавала гэтая палітыка чэхам і Мараве ў іх барацьбе за тое, каб утрымацца разам, як адзін народ? Ці-ж ня ведама, што сэрбы і харваты—адзін народ, які гаворыць аднэй мовай, а толькі, дзякуючы таму, што сэрбы—праваслаўныя, а харваты—каталікі, вэнграм удалося (і цяпер удаецца!) разьдзяліць іх і варожа настроіць узаемна? Ці-ж не аналягічны ў гэтым сэнсе дрыгвічы з крывічамі?!...

Лёгка дагадацца, хто ўжывае рук п. Ластоўскага дзеля гэтае работы. Гэта—той, хто дае яму грошы і каму вельмі хацелася-бы заходніх беларусаў пераксьціць у „крывічоў“ і адарваць ад агульна беларускага нацыянальнага руху. Тым шчодрым „прыяцелем“ агітатараў за „Крывію“ зьяўляецца літоўскі ўрад, які наіўна спадзяецца, што пан Ластоўскі такім спосабам дапаможа Літве далучыць да Коўны Віленшчыну і Горадзеншчыну...

Пішу аб гэтым і прашу надрукаваць не затым, каб пашкодзіць новаму товарыству: наадварот, жадаю яму шчыра разьвівацца і працаваць на грунце роднае культуры. Пішу дзеля таго, каб папярэдзіць і нашу пражскую моладзь, каб не дала ўжыць сябе дзеля мэтаў, чужых беларускаму народу, і нашу інтэлігенцыю ў Краю, каб Край цьвёрдым і станоўчым голасам сваім спыніў шкодны, паводле майго пераканаьня, для Беларусі напрамак. Было-б пажадана, каб таварыства працавала і далей, толькі не ў сэпаратным „крывіцкім“, а ў агульна-беларускім духу.

Прага, 30. VI. 1925 г. **Беларус-Эмігрант.**

**Ад Рэдакцыі.** Зьмяшчаючы гэту карэспандэнцыю, мы, аднак, ня верым у паважнае значэньне дурное выдумкі пустых людзей, якія ня ўмеюць знайсьці сабе паважнага дзела. „Пераксьціць“ беларускі народ ім усё роўна ўжо ня ўдасцца: лішне многа зьвязана ўжо з імем—Беларусі! Калі-ж літоўскі ўрад разам з п. Ластоўскім запраўды спадзяецца раскалоць суцэльны беларускі народ, заводзячы нейкія „крыўскія“ таварыствы ў Празе і ў Латвіі,—ну, дык гэта сьведчыць толькі аб іх... наіўнасьці!—У краю-ж на падобныя глупствы ніхто ня мае часу ні ахвоты, каб імі займацца.

# Беларусы у Латвіі.

## Вынікі латышскага тэрору.

Той тэрор, які латвійскі ўрад — з нагавору тамтэйшых палякоў — павёў проці беларусаў, настолькі напалохаў даволі цёмную і маласьвядомую беларускую сялянскую масу, што ў часе адбытага ў лютым месяцу сёлетняга году сьпісу насяленьня Латвіі беларусаў „аказалася“ ажно напалову менш, чым было пры сьпісе 1920 году!

Вось цыфры беларусаў у Латвіі паводле трох сьпісаў насяленьня:

1) па ўсерасейскаму сьпісу 1897 г. —79,523, або 4, 1%
2) па сьпісу 1920 г. —75.630, або 4,74%
3) па сьпісу 1925 г. —38 010, або 2,06%

Ясна, што гэтая апошняя цыфры ня можа быць прызнана праўдзівай: гэта—перад усім вынік урадовага тэрору, арыштаў і вобыскаў у беларускіх дзячоў і вучыцялёў, вінавачаных то ў манархізьме, то ў камунізьме, то ў сэпаратызьме, — вынік груба-беззаконнае высылкі найвыдатнейшых прадстаўнікоў беларускага насяленьня Латвіі — пасьля таго, як суд апраўдаў іх ва ўсіх гэных абвінавачаньнях!

Тэрор, як сказана і ўсім ведама, пачаўся ў Латвіі проці беларусаў з польскае ініцыятывы (дэп. Вержбіцкага і інш.). Але аказалася, што пры апошнім сьпісе насяленьня палякі ня толькі не пажывіліся коштам несьвядомых і стэрарызаваных беларускіх сялян, але самі шмат страцілі: паводле сьпісу 1920 г. іх тут налічалася 54,567 (—3,42%), а цяпер—51,143 (—2,77%). Затое ўсе гэтыя загубленыя беларускія душы запісалі ў свой рахунак, як расейскія, маскалі! Так, з 124,746 (—7,82%) паводле сьпісу 1920 г. лічба „вялікаросаў“ пры апошнім сьпісе дайшла цыфры 193,648 душ (—10,5%), узросшы блізу на 50%.

Але трэба адзначыць, што ня толькі несьвядомасьць і палахлівасьць беларускіх сялян была прычынай зьмяншэньня запісу беларусаў. Тут адыграла вялікую ролю і злая воля сьпісацеляў: многіх запісалі „вялікаросамі“ супраць іх волі.

„Голас Беларуса“ ў № 2 піша аб гэтым так:

„У мінулым нумары нашае газэты мы зьмяшчалі паведамленьне з Люцыншчыны аб тым, што беларускіх грамадзян перапішчыкі некаторых раёнаў чамусьці запісывалі, ня гледзячы на пратэсты, вялікаросамі. Некаторыя з найбольш сьвядомых грамадзян падалі аб гэтым свае пратэсты Кіраўніку Дзяржаўнага Статычнага Упраўленьня“.

Ці ўсё гэтае ня прымусіць урэшце латвійскіх палякоў адумацца і кінуць сябраваньне з маскоўскай чорнай сотняй, якая зьвіла сабе моцнае гняздо ў Латвіі і роўна пагражае як беларусам, так і „прыяцелям“—палякам?



Выдавец: **Барыс Леванчук.**

Друкарня **Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.